



№ 13 (174)

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года




## У нумары:



## На тым тыдні...

● **З 28 сакавіка** ў мастацкай галерэі Мінскага абласнога цэнтра народнай творчасці адкрыта выстаўка армянскага мастака Грыгора Данеляна «Сэрцам да сэрца». Тут былі прадстаўлены жывапісныя і графічныя творы аўтара.

Мастак у 1973 годзе скончыў Ерэванскі мастацка-тэатральны інстытут. Цяпер жыве і працуе ў Беларусі. Работы Данеляна экспанаваліся ў Арменіі, Грузіі, Беларусі, Расіі, Італіі і інш. Мастака хвалюе праблема духоўнага пошуку. Яго работы – экспрэсіўныя і сімвалічныя, з'яўляюцца вынікам вывучэння розных перыядаў і накірункаў гісторыі мастацтва. Нягледзячы на шырыню поглядаў, мастак мае выразны прыватны стыль, унікальны набор вобразаў і сродкаў выяўлення.

Выстаўка прысвячаецца Дням культуры Арменіі ў Беларусі.

● **Дні польскай фатаграфіі** – польска-беларускі праект, які пачаўся з выставы (у Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва з 30 сакавіка да 20 красавіка) польскага фотарэпарцёра і майстра псіхалагічнага партрэта, мастака з сусветным імем Кшыштафа Гералтоўскага. Рэтраспектыўная калекцыя «Сучасныя польскія партрэты» складаецца з дзвюх экспазіцый: каля 70-ці каляровых і больш за 20 чорна-белых партрэтаў вядомых прадстаўнікоў польскай культуры, мастацтва, грамадскіх дзеячаў, палітыкаў. На вернісажы К. Гералтоўскі ў прысутнасці Пасольства Рэспублікі Польшчы ў Беларусі, Міністэрства культуры і захавання спадчыны Польшчы, дзеячаў культуры і мастацтва Беларусі перадаў у дар Музею сучаснага мастацтва тры свае работы.

У рамках праекта плануецца правесці: 11 красавіка «Камера Абскура» – выстава фатаграфіі Рышарда Карчмарскага ў Абласной бібліятэцы імя А.С. Пушкіна; 20 красавіка «Гуміарабік» – выстава фатаграфіі Генрыха Рагазінскага (1934–2004) і слайд-фільм «Успамін аб Польшчы» Альберта Цехановіча, прысвечаны памяці Генрыха Рагазінскага ў сталічнай Гарадской мастацкай галерэі імя Л. Шчамялёва.

### Чытацкі водгук

*Добры дзень, шаноўная «Краязнаўчая газета»!*

*Звяртаецца да Вас Соф'я Парфір'еўна Кусянкова з в. Лучын Рагачоўскага раёна. Пра 870-гадовы юбілей Лучына Вы пісалі ў № 39 (152) за кастрычнік 2006 г.*

*Тое, што Вы першыя надрукавалі пра гэта, нікога не пакінула абыякавым. Асобныя экземпляры газеты размеркавалі – у ДК, у школу, у мясцовы выканкам, бібліятэку. А каму не хапіла – зрабілі ксеракопіі. Яно ж вядома – такі ёмісты, грунтоўны матэрыял пра сваю вёску нікога не пакіне абыякавым. А Лучын – вёска ў раёне не тое што адна з адметных, а, можна сказаць, самая знаная, так бы мовіць, заўсёды «на слуху». І свята ў Лучыне было справай агульнараённай. Мабыць, таму сцэнарый распрацоўваўся сумесна з раённым аддзелам культуры і вяла праграму загадчыца раённага метадычнага цэнтра Рагачоўскага аддзела культуры Ірына Седлер. І як вяла! Здавалася, і сама яна ўвесь час тут жыла, і яе продкі – пра кожнага гаварыла так, быццам бы яго даўно асабіста ведае. Узгадалася і далёкая мінуўшчына, і ліхалецці, і лепшыя часы. І ўсё праз людзей, якія сталі гонарам вёскі, зараз тут жывуць і робяць сваю справу.*

*Усё гэта я пішу, мабыць, і пазнавата, а вось пра Вашу газету выказацца, думаю, ніколі не позна. Газету чытаю вельмі грунтоўна. Па змесце – гэта тое, што вельмі патрэбна і неабходна. Сапраўдная беларуская газета.*

*Мяне кранула тое, што «з-за абмежаванасці сродкаў газета безганарарная». Значыць, тут працуюць сапраўдныя энтузіясты беларускай ідэі, беларускага слова. Якая ж недарэчнасць, што ў беларускай дзяржаве беларускае выданне абмежавана ў сродках!*

*Выклікае павагу да газеты і тое, што яна стала выдавацца з 2003 года – не ў лепшы час для беларускага слова.*

***З павагай, удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі – Соф'я КУСЯНКОВА, в. Лучын Рагачоўскага раёна***



***Жыццё добрых людзей – вечная маладосць***

*Ш. Надзье*

## Заспявала душа ў Барані

***Тэлеканал «ЛАД» працягвае цыкл перадачаў «Спявай, душа!». Яе стваральнікі – у віры родных слова і песень, абрадаў і танцаў. Народныя таленты аб'яднаныя ў адной перадачы. А новая сустрэча з гледачом – то расповяд пра новы куточак нашай вялікай краіны.***

Нядаўна сустрэчы прайшлі з мастацкімі калектывамі Барані, што ў Аршанскім раёне. Прыемнае адчуванне, што ўдзельнікамі з'яўляюцца людзі розных узростаў, розных прафесіяў. Тут школьнікі, студэнты і пенсіянеры, настаўнікі, рабочыя і калгаснікі... У вольны час яны спасцігаюць і вывучаюць рамёствы, вывучаюць гісторыю роднага краю, мастацтва.

Людзі дзякуюць стваральнікам тэлеперадачы, запрашаюць яшчэ не раз прыязджаць, каб радаваць сваімі талентамі прыхільнікаў народнай творчасці нашай краіны.

***Мікола КОТАЎ, удзельнік тэлеперадачы «Спявай, душа!»***

***Фота аўтара***



## Прэмія І.М. Ушакова для «Несцеркі»

***26 сакавіка 2007 года напярэдадні Міжнароднага дня тэатра ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры адбылося ўрачыстае ўручэнне прэміі імя заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь І.М. Ушакова пераможцам штогадовага конкурсу мастакоў-сцэнографаў па выніках працы за 2006 год.***

Конкурс ладзяць Грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры» і Дзяржаўны музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры. Конкурс 2006 года быў ужо па ліку сёмы. На гэты раз – міжнародны. Сярод намінантаў – добра вядомыя ў нашай краіне мастакі тэатраў: віцебскага – імя Якуба Коласа, мінскага – імя Янкі Купалы, Тэатра юнага гледача, Томскага тэатра юнага гледача. Таму ў журы конкурсу, якое ўзначальвае старшыня Беларускага фонду культуры У. Гілеп, была задача не з простых: выявіць лепшага мастака-сцэнографа мінулага года.

Вынікі галасавання былі агучаны на ўрачыстасці, прысвечаной гэтай падзеі. Іх абвясціў першы намеснік міністра культуры Уладзімір Рылатка, які адначасова расказаў і пра дасягненні тэатральнага мастацтва нашай краіны, павіншаваў прысутных з Міжнародным днём тэатра. Такім чынам, па выніках работы кампетэнтнага журы, прэмія конкурсу імя Івана Міхайлавіча Ушакова дасталася галоўнаму мастаку Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Пятру Анашчанку за сцэнаграфію да неўміручай п'есы Віталя Вольскага «Несцерка». Спектакль быў адноўлены ў кастрычніку 2006 года. Прэмію мастаку ўручыла асабіста жонка І.М. Ушакова Зоя Данілаўна – нястомная зберагальніца творчай спадчыны мастака, духоўны і матэрыяльны дапамагаты і адзін з заснавальнікаў конкурсу мастакоў-сцэнографаў.

Ганаровымі граматамі Беларускага фонду культуры таксама ўзнагароджаны:

мастак Аляксандр Касцючэнка за сцэнаграфію да спектакля «Утаймаванне свавольніцы» У. Шэкспіра (Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага);

мастак Вольга Грыцаева за сцэнаграфію да спектакля «Пацалунак ночы» С. Кавалёва (Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача);

мастак Уладзімір Аўдзееў за сцэнаграфію да спектакля «З днём нараджэння, Ванда Джун» К. Ванегута (Томскі тэатр юнага гледача).

У Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры была разгорнута выстава твораў Івана Міхайлавіча Ушакова, дэманстраваўся фільм пра яго жыццёвы шлях і творчасць (аўтар А. Дамарацкі).

У рамках афіцыйнай урачыстасці старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО Уладзімір Шчасны ўручыў А. Дамарацкаму дыплом гэтай установы за дасягненні ў галіне журналістыкі.

***Наш кар.***



*Фота Леаніда БАРОЎСКАГА*

## Працяг размовы

***У сярэдзіне сакавіка г.г. адбыліся дзве сустрэчы пісьменніка, намесніка галоўнага рэдактара «КГ» Генрыха Далідовіча з жыхарамі горада Нясвіжа.***

На першую сустрэчу ў раённым Доме культуры прыйшлі супрацоўнікі бібліятэк, чытачы, настаўнікі і вучні з беларускай гімназіі і сярэдніх школ №№ 3 і 4, дзе Г. Далідовіч выступіў на тэму «Мой вялікі зямляк Якуб Колас». Адпаведна, ён расказаў пра старажытную гісторыю сённяшняга Стаўбцоўскага раёна, пра тых дзеячаў, якія на працягу многіх стагоддзяў мелі дачыненне да матэрыяльнага і духоўнага развіцця краю, а ўрэшце падрыхтавалі і натхнілі да жыцця Коласаў геній. У Нясвіжскім педкаледжы Г. Далідовіч запыніў увагу будучых настаўнікаў на тэме «Патрэба новага погляду на жыццё і дзейнасць Я. Купалы і Я. Коласа», выказаў сваю думку пра пуцявіны развіцця беларускай літаратуры розных перыядаў, а таксама, як і ў папярэдняй сустрэчы, адказаў на шматлікія пытанні наконт ягонай асабістай празаічна-публіцыстычнай творчасці. Ён падкрэсліў: лепшыя духоўныя набыткі ўзнёслых лірычна-эстэтычных і філасофскіх асэнсаванняў, мастацкія набыткі Я. Купалы і Я. Коласа – далёка не адпрацаваны матэрыял, а накірунак далейшых творчых пошукаў для ўсіх найбольш здольных сіл беларускай літаратуры. Быць разам з родным народам, тварыць на яго старажытнай мове, спасцігаць і адлюстроўваць шматлікія ягоныя духоўныя глыбіні – гэта і іншае ва ўсіх народаў свету было найбольш запаветным і святым.

Па дамоўленасці з бібліятэкамі, навучальнымі нясвіжскімі ўстановамі, з самімі ўдзельнікамі вечарын, напрыканцы сустрэч былі праведзеныя своеасаблівыя анкеты-апытанні. Дзве з іх прысвячаліся ўсеагульнай беларускай гісторыі і культуры, тры – Нясвіжчыне. А іменна: а) калі, дзе і кім пачата ва ўсходніх славян кнігадрукаванне з ужываннем старабеларускай мовы; б) назавіце заканадаўчы дакумент у ВКЛ, што быў на старабеларускай мове і стаўся адной з першых Канстытуцый у Еўропе, калі ён быў выдадзены ўпершыню і ў якія яшчэ гады перавыдаваўся з дапаўненнямі; в) прыкладна калі і ў сувязі з чым упершыню ўпамінаецца пра г. Нясвіж, імя яго першага князя; в) які герой якога твора «Нясвіж лічыў Парыжам», і, галоўнае, чаму; д) назавіце ўзрост, прафесію, імя і прозвішча сваіх прадзедаў па бацькавай ці матчынай лініі.

Як не дзіўна, сама менш адказаў было на апошняе пытанне – пра веданне... сваіх продкаў. Гэта не можа не азадачваць: хіба гэта пабочная наша турбота – наша натуральная спадчынная, гістарычная памяць? Тым не менш было радасна ўсведамляць: сярод юных навучэнцаў знайшліся і такія, хто амаль дакладна адказаў на вышэйназваныя пытанні, у тым ліку і на апошняе. На першай сустрэчы пераможцам аказалася вучаніца СШ № 3 Насця Насевіч, на другой – студэнт педкаледжа Самахвал. Пераможцам былі ўручаны прызы.

***Алеся НЯМКЕВІЧ,***
***г. Нясвіж***



*...І вядома ж – фота на памяць*




*Пасля марознага і снежнага лютага так хацелася сустрэць вясну. Калі на перакідным календары з'явілася «1 сакавіка», здалося, што менавіта цяпер яна прыйшла, недзе побач. Але потым былі і першыя праталіны, і першыя ручайкі, і лагодныя праменьчыкі сонца, і цёплыя павевы ветру, і першыя чароды птушак. Дык дзе шукаць сустрэчы з вясною?..*

*Пасля цёплай зімы рэкам не давялося, як у мінулым годзе, удосталь пагуляць у сваіх поймах, завітаць няпрошаным госцем у вёскі, падтапіць агароды, хаты, прынесці немалы, але звыклы клопат палешукам. Ужо да пачатку красавіка яны вярнуліся ў свае берагі, пакінулі на поймах шматлікія азяркі, вялікія лужыны, шчодра напоўнілі старыцы вадой.*



*Цёплае і сонечнае надвор'е, бясхмарнае неба пафарбавалі гэтую ваду ў празрыста-люстраны колер. А вечаровае сонца, вялікае, чырвонае, перад тым, як схавацца за даляглядам, супакойвала дзённы вецер, ахутвала кусты і дрэвы поймы смугою. Як можна прапусціць такую прыгажосць? Чым потым апраўдацца?*

*Заплечнік, веласіпед, амаль гадзіна дарогі... На беразе Гарыні, сярод вечаровай цішыні, якую зрэдку парушаюць толькі крыкі птушак ды гукі недалёкай вёскі, душа супакойваецца, адпачывае, напаўняецца ціхай радасцю...*



*Праз некалькі дзён, сярод мітусні вялікага горада, разумееш, што вясна доўга шукала сустрэчы з табою і першымі праталінамі, і першымі ручайкамі, і лагоднымі праменьчыкамі сонца, і цёплымі павевамі ветру, і першымі чародамі птушак. Ды толькі сустрэў яе сярод поймы Гарыні, на радзіме.*

***Ігар ГРЭЧКА,***
***фота аўтара***

**Наш каляндар**

## Славуты дзеяч нашай дзяржавы

Найбольш вядомы прадстаўнік славутага магнацкага роду Леў Сапега нарадзіўся 450 гадоў таму 4 красавіка 1557 года (в. Астроўна Бешанковіцкага раёна). З'яўляўся вялікім пісарам (з 1581), падканцлерам (з 1585), вялікім канцлерам ВКЛ (з 1589), ваяводам віленскім (з 1623), вялікім гетманам ВКЛ (з 1625). Атрымаў выдатную на тыя часы адукацыю (вучыўся ў пратэстанцкай школе ў Нясвіжы, Лейпцыгскім універсітэце). У веравызнанні не быў паслядоўным. З праваслаўя перайшоў у кальвінізм, потым у каталіцызм.

На службе ў караля Стэфана Баторыя з 1576 года, прымаў удзел у стварэнні Трыбунала Вялікага княства Літоўскага. Удзельнік Лівонскай вайны 1558–1583 гадоў на чале ўласнага атрада. У 1584 годзе ўзначальваў пасольства ў Маскву. Яго дыпламатычным дасягненнем было заключэнне з царом мірнага дагавору з вяртаннем без выкупу 900 палонных жыхароў ВКЛ. Фінансаваў выданне ў віленскай друкарні Мамонічаў Статута ВКЛ 1588 года, узначальваў соймавую камісію па яго стварэнні. Быў каралеўскім паслом на царкоўным саборы ў Брэсце, садзейнічаў заключэнню уніі 1596 года. Узначальваў суд над удзельнікамі Віцебскага паўстання 1623 года. Быў на чале пасольства ў Маскву (1600–1601), удзельнічаў у заключэнні мірнага дагавору з Расіяй на 20 гадоў. Падтрымліваў вайну Рэчы Паспалітай з Расіяй 1609–1618 гадоў, садзейнічаў абвяшчэнню Уладзіслава IV Вазы рускім царом. Арганізаваў ваенны паход на Маскву (1617–1618), падпісаў Дэулінскае перамір'е ў 1618 годзе. Удзельнік вайны Рэчы Паспалітай са Швецыяй (1600–1629).

Адстойваў суверэнітэт ВКЛ у складзе Рэчы Паспалітай, выступаў супраць раздачы палякам зямель і пасад у ВКЛ. Шмат зрабіў дзеля ўпарадкавання дзяржаўнага архіва ВКЛ.





# З маладосці сталы

Алеся Жука ведаю больш за сорак гадоў, з таго часу, калі ён у 1965-м таксама паступіў на беларускае аддзяленне філфака БДУ. Сярод нас, студэнцкай брацii, у тым ліку і з заяўкамі на літаратурную працу, ён адразу ж вызначыўся і фізічна (каржакаватасцю, высокалобнасцю, з прыкметамі залысін), і паводзінамі (стрыманасцю ў эмоцыях, пільным назіраннем за ўсім, нешматслоўнасцю, разважнасцю, а ў размовах – трапнасцю). Адпаведна, змоладу вызначыўся моцным характарам і сталасцю. Ужо і тым, што прыйшоў на першы курс аўтарам апублікаваных не толькі ў раённым і дзіцячым рэспубліканскім друку, але і ў часопісе «Нёман» апавяданняў, неўзабаве ажаніўся з аднакласніцай, сышоў на прыватную кватэру і пачаў сямейнае жыццё. Пасля заканчэння вучобы два гады служыў афіцэрам (любіць спяваць песні і пра лейтэнантаў, якія камандавалі ротамі, і пра камбатаў), з 1972-га больш за тры дзесяцігоддзі працаваў на розных пасадах у выдавецтве «Мастацкая літаратура», у часопісах, у тым ліку галоўным у «Нёмане» і «Беларусі», у ЦК КПБ, сакратаром у Саюзе пісьменнікаў, у Цэнтрвыбаркаме Рэспублікі Беларусь. Калегі па-рознаму ацэньваюць яго кіруючую дзейнасць: адны лічаць, што ўсюды праяўляў свае вышэйпералічаныя якасці, іншыя дадаюць, што быў занадта асцярожны і абачлівы. Ды мне ясна адно: у яго была і ёсць свая добра прадуманая пазіцыя і лінія, у якіх выключаліся эмацыянальныя крайнасці.



*З бацькам Аляксандрам Сцяпанавічам, сынам Дзімам (трэці злева), пляменікам Ігарам і Віктарам Казько (в. Клешаў, 1980 г.)*

Як празаік Алесь Жук вызначыўся тым, што з пачатку публікацый апавяданняў у «Нёмане» (1965), «Чырвонай змене» (1966), часопісе «Маладосць» (1967) адразу ж здолеў, як пісаў выдатны майстра навелістыкі І. Бунін, злавіць свой, уласцівы толькі яму «звук», пачаў пісаць роўна, ярка і творча расці ад твора да твора, рана дабіўшыся і сярод сталых пісьменнікаў прызнання як апавядальнік. Сваім бачаннем, асэнсаваннем жыцця, творчай манерай, жывой, каларытнай слуцкай мовай, дбайна і хораша апрацаванай па літаратурных канонах. Так, як гэта ўмелі Бунін і наш Чорны. Вось пачатак яго апавядання «Асеннія халады» (1969), што крыху пазней дасць і назву першай кнізе (1974): «У канцы лістапада, пасля зацяжных дажджоў, пацiснулі маразы: дні стаялі сонечныя, халодныя і пасторныя, і начамі нават зрэдку патрэсквалі калы ў плоце». Апавяданні былі на розныя тэмы: «Сок манга» (1966), «Белы месяц» (1967), «Дома», «Даўняя памяць», «Сонечны снег» (усе 1970), «Вечар шчасця» (1972). Прысвячаліся тагачасным вёсцы і гораду, пажылым і маладым людзям, якія са сваімі клопатамі, шляхамі-дарогамі ішлі па жыцці альбо яшчэ не зусім асэнсавана і не з вызначанымі духоўнымі каштоўнасцямі накіроўваліся ў сталае жыццё. З апавяданняў, напісаных у той час, па-мойму, асабліва вылучылася «Жонка героя» (1969), дзе аўтар паказаў сваю жыццёвую і мастацкую смеласць. На той час герою вайны нельга было нават кінуць слова папроку, хоць як чалавечая асоба ён быў, як кажуць, і неважнецкая. Гераіня твора, працавітая, шчырая і добрая сялянка Ганна, кахала свайго мужа, але «Сяргей не заехаў нават развітацца з ёю, і гаварылі, што праводзіла яго на вакзал і плакала другая...» Але на фронце ваяваў гераічна, загінуў у баі, і яна, яго законная жонка, мусіць пераадольваць свае справядлівыя крыўду, боль і расказваць на запрошаных выступленнях пра яго, героя і нявернага мужа, толькі ўзнёсла. Дзеля, як тады патрабавалася, «выхавання падрастаючага пакалення на гераічных традыцыях бацькоў». А іначай і яе, гаротніцу, не ўхвалілі б.

У другой палове 1970-х Алесь Жук замацаваў сваю рэпутацыю апавядальніка «Мішам» (1975), «Прочкамі» (1976), «Святам Перамогі» (1977). У першых двух ён чуйна ўлавіў тыя няпростыя працэсы, што пачалі праяўляцца ў вёсцы, у псіхалогіі людзей у сувязі з грамадскім падрывам даўніх і духоўных асноў сялянства, страты ўсведамленняў гаспадара і годнага чалавека, калі пачало ўсплываць, браць моц тое, што раней асуджалася строгай, але здаровай сялянскай мараллю. У «Святце Перамогі» – новае і глыбейшае асэнсаванне наступстваў вайны, святкавання з чаркай і слязьмі вялікай Перамогі тымі, хто здабыў яе, але не атрымаў пасляваеннага багатага і шчаслівага жыцця, будучы амаль пастаянна ў гумоўцах, куфайцы і з сахаром ці касою ў руках, хто змушаны цярпець гулякаў з маладзейшага пакалення, якія прымыкаюць да іх і іхняга Свята, пераўтвараючы яго ў яшчэ адну выпіўку, толькі ўжо «па выпадку». 1970-я былі плённыя для Алеся Жука і ў жанры аповесці: «Такая восень» (1972), «Чыгун», «Не забывай мяне», «Зоркі над палігонам» (абедзьве 1976), «Халодная птушка» (1977). Апошняя, а з ёй і аповесць «Паляванне на апошняга жураўля» (надрукавана ў 1982-м) – важкі ўклад аўтара ў беларускую прозу: у першым выпадку – глыбокім асэнсаваннем даваеннай і пасляваеннай долі жанчыны-сялянкі з яе цяжкай і шчаслівай працаю, з душэўнымі пакутамі і радасцямі, у другім – як пісалі даследчыкі, «маштабнасцю, вастрынёй у пастаноўцы сучасных праблем», «клопатам пра навакольнае асяроддзе, напоўнены выразным аналітычным роздумам, у спалучэнні з легендарна-казачнымі апавядальнымі элементамі-сімваламі», «мастацкай значнасцю» (І. Ключановіч).

Апроч вышэйпералічаных апавяданняў і аповесцей, у пазнейшыя гады Алесь Жук створыць яшчэ і новыя. З пачатку сваёй творчасці ён напіша шмат рэцэнзій на творы іншых аўтараў, публіцыстыкі, перакладзе на беларускую мову нямала лепшых твораў іншых літаратур (апавяданні і аповесці М. Кацюбінскага, А. Упіта, В. Астаф'ева, Г. Траепольскага, Ю. Казакова і інш.). І яго шматлікія творы перакладзеныя на многія мовы свету. Ён мае нямала ўзнагарод, сярод якіх і пачэсная Дзяржаўная прэмія Рэспублікі Беларусь.

***...Калі яшчэ раз напомніць пра тое, што Алесь Жук у многіх стасунках і варунках быў ранні, то трэба падкрэсліць і яшчэ адну акалічнасць: у адным выпадку рана, а то і залішне рана, як і мы, крыху старэйшыя, паспяшаўся да 60-годдзя! Ды тут, канечне ж, нідзе не дзенешся ад таго, што вырашаюць за нас саміх жыццё і наш лёс, таму, дружа, віншую і з гэтым годным набыткам, жадаю здароўя і не пакідаць у спакоі свой даўно ўзяты «гук» у літаратуры і яшчэ нямала папленнічаць у ёй!***

***Генрых ДАЛІДОВІЧ***

## краязнаўча-прававой тэрміналогіі



**ХАЛУПНІКІ** – малазямельныя і беззямельныя сяляне на Беларусі ў XVI–XIX стст. Звычайна яны мелі хату (халупу) і невялікую колькасць жывёлы. Не адраблялі паншчыны, але кожны год плацілі феадалу, на зямлі якога жылі, так званыя паседзінкі. У XVII ст. малазямельныя халупнікі зліліся з цяглымі сялянамі, што адраблялі паншчыну.

**ХАРУГВА** – а) баявы сцяг падраздзялення войска ВКЛ і Польшчы. Паводле звычаю, замацаванага Статутам, выдаваўся перад паходам з дзяржаўнага скарбу кожнаму харунжаму; б) падраздзяленне кавалерыі, самастойная вайсковая адзінка ў ВКЛ і Польшчы. Налічвала ад 100 да 200 коннікаў. Харугвы былі вялікакняжацкія (каралеўскія) і магнацкія. Апошнія ўтрымліваліся за кошт магнатаў і звычайна ахоўвалі іх маёнткі ў час татарскіх набегаў, а ў час рушэння выступалі ў паход на абарону дзяржавы.

**ХАРУНЖЫ** – слубовец у ВКЛ. Харунжы дворны – хавальнік сцяга пры вялікім князі, камандаваў дваранскім атрадам, што быў пры ім. Харунжы земскі – хавальнік сцяга і ў складзе войска пры гетмане. Харунжы павятовы – хавальнік павятовага сцяга, вёў улік і мабілізацыю ваенна-абавязанай шляхты і баяр, сачыў за станам іх узбраення, у час вайны збіраў шляхецкае апалчэнне і разам з павятовым маршалкам (камандзір павятовага войска) вёў яго да месца збору войска, дзе перадаваў атрад пад камандаванне гетмана (начальнік войска).

**ХУТАР** – від сельскага паселішча, адасоблены зямельны ўчастак з сядзібай уладальніка. У ВКЛ хутарамі называлі і фальваркі.

**ЦАЛЯ** (ад ням. фаланга пальца) – адзінка вымярэння даўжыні ў сістэме мер ВКЛ. 24 цалі раўняліся 1 локцю (64,96 см).

**ЦІВУН** – службовец у ВКЛ, які быў у мясцовай дваровай адміністрацыі і кіраваў гаспадарскімі справамі, а таксама судом. Спачатку прызначаліся з несвабодных людзей, у XIV–XVI стст. цівуном мог быць і вольны чалавек, на Беларусі нават шляхціц. У асобных гарадах цівунамі прызначаліся багатыя землеўладальнікі. На вёсцы цівуны былі памочнікамі дзяржаўцаў (часовых уладальнікаў і аканомаў дзяржаўнага маёнтка, адначасова і начальнікаў мясцовага дзяржаўнага кіравання і суда) па наглядзе за работамі сялян у маёнтках, прысутнічалі на судзе намесніка-дзяржаўцы, судзілі прасталюдзінаў.

## З бібліятэкі «КГ»

Нам хочацца расказаць чытачам пра Кажан-Гарадок, невялікае мястэчка ў мінулым, а цяпер вёску ў Лунінецкім раёне. Лёс гэтага населенага пункта незвычайны хаця б таму, што яму 500 гадоў. Астатняе вы даведаецеся, прачытаўшы вытрымкі (іх мы мяркуем надрукаваць пазней) з кнігі вядомага краязнаўца, настаўніка ў свецкім і духоўным разуменні гэтага слова – Васіля Мікалаевіча Туміловіча «Кажан-Гарадок 500-гадовы».




Кніжка выйшла ў 2005 годзе невялічкім накладам у 100 асобнікаў, таму, як і большасць кніг беларускіх краязнаўцаў, з'яўляецца бібліяграфічнай рэдкасцю.

Сам В.М. Туміловіч зараз служыць настаяцелем царквы ў в. Пашукі, што ў Камянецкім раёне. Ён глыбока даследуе гісторыю сваіх родных мясцін па архіўных крыніцах. Можна сказаць, гэта чалавек энцыклапедычна дасведчаны ў гістарычным мінулым бацькаўшчыны. Дастаткова зазірнуць у спіс выкарыстанай літаратуры, і станоўіцца зразумелым агромністая каштоўнасць ім створанага.


URZĄD GMINY
KOŻAN-HORODECKIEJ

*Цыркуляр польскага камандавання (лістапад 1919) аб наданні польскай і беларускай мовам роўнага статусу на тэрыторыі 3-га раёна Пінскага павета*




*Штампы, клішэ і пячатка ўстаноў Кажан-Гарадоцкай гміны польскіх часоў*





*Школьнае краязнаўства*

# «Я Орды альбом гартаю...»

***Я працую ў дзіцяча-юнацкім цэнтры падарожжаў і краязнаўства «Бабраня» ў Бабруйску. Як кіраўнік студыі «Мастацкае краязнаўства» ўдзельнічала ў Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Напалеон Орда: жыццё, творчасць, мастацкая спадчына». На гэтым форуме атрымала шмат новых звестак пра чалавека, творчай спадчынай якога займаюся разам са сваімі выхаванцамі ўжо даўно, з 1998 года. За гэтыя гады мы не проста збіралі матэрыялы пра Орду, знаёміліся з альбомамі яго літаграфій у Нацыянальнай бібліятэцы – мы правялі 9 экспедыцый. Іх мэтай было знайсці тыя цудоўныя мясціны, у якіх бываў, якія маляваў Орда, і самім пазнаёміцца з імі, замаляваць. З падарожжаў мы прывозілі эцюды, дзённікі, вершы, фота, праводзілі літаратурныя вечары, творчыя сустрэчы, выставы. Нашыя маршруты пралягалі не толькі па вядомых мясцінах, такіх, як Мір, Навагрудак, Любча, Полацк, Гродна, але нам даводзілася бываць падоўгу, стаяць турысцкім бівуакам на ціхіх берагах Ясельды над шатамі Скірмунтавага парку, маляваць краявіды на Друці за Бялынічамі, гуляць у русалак на таямнічай Свіцязі і ў «дыверсантаў» у Косаўскім замку і г.д.***

Некаторыя нашыя вандроўкі цягнуліся па 18 дзён, а самыя малыя – па 9. У 2001 годзе была самая цікавая «палеская экспедыцыя»: Бабруйск–Пінск–Парэчча–Дастоева–Іванава– Варацэвічы–Кобрын–Брэст–Пружаны–Ружаны–Косава–Баранавічы–Бабруйск.

З усёй геаграфіі падарожжаў мы налічылі 33 мясціны, у якіх пабываў калісь Орда, а цяпер мы. Самай улюбёнай для нас, як і для яго, з'яўляецца Гродзеншчына. Маладым бабруйчанам цікава знаёміцца са старажытнай архітэктурай, якой больш захавалася ў Заходняй Беларусі, і з сярэднявечнымі фэстамі ў Навагрудку, і з сучаснымі аднаснінамі нашых «западэнцаў» да культурнай спадчыны.

У маёй камандзе менш за 20 чалавек не бывае. Мне дапамагаюць рабіць такія складаныя падарожжы мае былыя вучні, зараз студэнты. І справа не толькі ў турыстычных тэхналогіях (бівуак, дровы, цяжкія заплечнікі), галоўнае – старэйшыя перадаюць малодшым сваю ўлюбёнасць у гісторыю, свае погляды на жыццё. Наша турысцкае брацтва яднае ў адной камандзе народ ад 10 да 25 гадоў. Да нас далучаюцца бацькі, якія потым здзіўляюцца багаццю гісторыі краіны і прыгажосці роднай прыроды. Канечне, бачым мы нават у аддаленых мясцінах жудасныя сляды аматараў шашлычных уік-эндаў, іх здзекі над прыродай – у такіх месцах мы пачынаем з таго, што капаем яму, даве, тры, у якіх хаваем гэты бруд і сорам. Канечне, мы бачым і занядбаныя помнікі, але я ўвесь час кажу дзецям: "Гэта ваш край. Чаго зайздросціць "прадзвінутаму Захаду"? Ніхто нас не чакае, ніхто нам дарма нічога не дасць. І мы не бяднейшыя за іх». Нашы падарожжы складаныя, мы шмат ходзім пешшу, але затое мы сустракаем вельмі шмат людзей, сапраўдных шчырых беларусаў, якія могуць дзецям паказаць і расказаць, што гэта наша *Беларусь*, нашыя *гісторыя і культура*. *А заадно ў іх ёсць магчымасць зразумець, як гэта Орда ў 49 гадоў распачаў такую складаную справу і колькі паспеў зрабіць.*



**Пленэр у паходзе**

Летась я распрацавала і правяла сваіх «бабранят» па цудоўных мясцінах уздоўж Нёмана. Маршрут пачаўся са Стаўбцоўскага раёна, ад Жукава Барка, дзе мноства розных выдатнасцяў, ёсць што пагладзець. Гэтыя мясціны маляваў Орда, бо тут бывалі Уладзіслаў Сыракомля, Саламон Майман, Юзэфа Кодзіс, Адам Плуг, на вершы якога Орда пісаў свае музычныя творы.

Пасля Жукава Барка цудоўная стужка Нёмана прывяла нас да вёскі Бераж-ное. Каб паглязець старадаўнюю царкву, мы пераправіліся праз Нёман бродам – рамантыка! Далей ішлі па правым беразе да Яроміч. Вось гэты адрэзак будзе вельмі прыемным для аматараў пешага турызму. Вы будзеце падымацца на Нёманскія стромы, а тутэйшыя людзі будуць вас папярэджваць: не жартуйце з Нёманам! А потым будзеце ісці чыстым прыгожым лесам, а Нёман будзе гуляць з вамі ў хованкі. За Ярэмічамі – Сіняўская Слабада, у якой на беразе Нёмана вы пабачыце стары драўляны мост, што прынесла паводкай. Потым мы ішлі па Налібоцкай пушчы аж да Шчорсаў. У Шчорсах з вялікім сумам пабачылі рэшткі графскай сядзібы Храптовічаў. Зараз там «жыве» адзін жалезабетонны бюст Мікалая Шчорса. Мы вывучалі гэтую мясціну, звяраючы яе гісторыю па кнізе Анатоля Варавы «Эцюды пра Беларусь».

Хачу дадаць як педагог: вельмі цяжка пераконваць дзяцей у тым, што гэтая мясціна ўсё яшчэ цікавая; так, трэба мець гістарычнае ўяўленне і рамантычны настрой мастака, а яшчэ – упэўненасць, што прыйдзе час, што яна адродзіцца, як Завоссе ці Мерачоўшчына...

Потым маршрут прывёў нас да манахаў. Пад моцным дажджом Лаўрышаўскі манастыр паміж звіваў Нёмана стаіць быццам на востраве. Каб прайсці, мы выклалі грэблю. Але сюды едуць як у старажытнае святое месца. А яшчэ кажуць, што айцец Лазар, які кіруе манахамі (іх усяго 7), мае такую духоўную сілу, што лечыць гаротнікаў п'яніц і наркаманаў.

Ад Лаўрышава да Любчы па нёманскім лузе рукой падаць. Любчанскі замак аднаўляюць студэнты-валанцёры. Ён не сапсаваны рэстаўратарамі, папулярнасцю. Там сапраўды водар гісторыі, самабытнае месца. І людзі цудоўныя, гасцінныя.

А потым мы праехалі да Навагрудка. Гэты горад лепш спазнаваць без натоўпаў-фэстаў. Трэба сказаць, што мае бабруйчане заўсёды ў захапленні ад старажытнай сталіцы ВКЛ. Да Міра таксама пад'ехалі. Знакамітая мясціна, але ўсё-ткі кожны раз знойдзеш новыя ўражанні...

Мы пераглядаем нашыя малюнкі, фота, як быццам гартаем новыя альбомы з маршрутаў Напалеона Орды.

*Я Орды альбомы гартаю,*
*І ў сэрцы маім ажываюць*
*Шаты зялёныя сцішаных паркаў,*
*Вокны ўтульныя зданяў-фальваркаў.*
*Дзесьці яшчэ засталася сядзіба,*
*Быццам дакор, напамін. Як на дзіва*
*Стрэне яна... На замшэлым там ганку*
*Так і падасца: быццам уранку*
*Стрэне паненка,*
*што раней сустракала*
*Вандроўніка нашага і прывітала*
*Словам ліцвінскім... Запросіць да таты*
*І пачастуе тутэйшай гарбатай.*
*Будзе ціха сядзець да раялем,*
*Слухаць ад госця паданні аб далях*
*Ангельскіх, гішпанскіх і афрыканскіх.*
*Няма у аповедах досведаў панскіх.*
*У шчырым шляхецкім тым сказе*
*Для роднай староньскі не месца абразе,*
*Чуецца гонар, пяшчота і сум,*
*Што выспявалі ў выгнанні ад дум*
*Аб мілай і роднай далёкай староньцы.*
*Потым на раніцы, раненькім сонцам*
*Возьме вандроўнік свой*
*сціплы рыштунак,*
*Возьме аловак; і лёгкі малюнак*
*Будзе яму ад тугі як ратунак.*
*Можа, баяўся наш госць, каб нядоля*
*Зноў, калі скрадзе радзіму і волю,*
*Не адбярэ яго светлую памяць,*
*Не заняссе ў чужынскую замець*
*Родныя сэрцу сядзібы-фальваркі,*
*Алеі з альтанкамі й замкі ў парках,*
*Хаты сялянскія, шляхі і гоні.*
*Пыл узнялі нашы моцныя коні*
*Тымі шляхамі пад нашай «Пагоняй»...*
*Вось я трымаю ізноў у далонях*
*Нітачкі тых пуцявін і дарогаў,*
*Што абышоў ты, паклікаены Богам.*
*Зноў я альбомы твае прагартаю,*
*Быццам бы песню тваю праспяваю,*
*Чую у песнях тваіх, паланэзах,*
*рамансах*
*Светлых надзей элегічныя станзы.*
*На аркушах светлых сваіх ты пакінуў*
*Сэрца свае, каб наш край не загінуў.*

**Людміла ДАБРАВОЛЬСКАЯ,**
**г. Бабруйск**



**Каля рэзідэнцыі І. Булгакава (в. Жылічы Кіраўскага раёна)**

# І сніўся ім не рокат касмадрома...

Задоўга да 108-хвіліннага палёту ў космас Юрыя Гагарына ўсё да самых малых дробязей было апрабавана: спачатку на сабаках, потым – на людзях. Старэйшыя пакаленні памятаюць, як на старонках усіх часопісаў і газет з'яўляліся фота першых касманаўтаў – братоў нашых меншых: Белкі, Стрэлкі, Рыжыка, Бывалага, Непуцёвага, Цыгана... Усіх іх было 48, 20 – загінула. Яшчэ ў 50-х гадах мінулага стагоддзя на базе навукова-даследчага інстытута авіяцыйнай медыцыны быў створаны спецыяльны аддзел – касмічны. Менавіта тут выпрабоўвалася кожная рэч, звязаная з забеспячэннем працаздольнасці і жыццядзейнасці чалавека ў космасе. У калектыве было шмат вайскоўцаў: ад урачоў-генералаў да салдат тэрміновай службы. І ў большасці менавіта яны (каму дазваляла здароўе) станавіліся невядомымі першымі (нулявымі) касманаўтамі.

Так, сяржант Сяргей Няфёдаў перад паспяховым палётам Юрыя Гагарына аж 10 сутак адбыў у макеце касмічнага карабля «Усход», дзе ежа была з тых жа цюбікаў, нават шум ад рухавікоў імітаваўся. Праведзены эксперымент даў магчымасць зрабіць выснову: чалавек можа знаходзіцца ў касмічнай прасторы не больш за 10 сутак. За асабістыя адвагу і мужнасць сяржант Сяргей Няфёдаў быў узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. А вось другі невядомы касманаўт № 0 яфрэйтар Багдан Гук. Ён выпрабоўваў ужо іншую, больш складаную касмічную тэхніку – шматмесны карабель. І заданні ў яго былі іншыя: розныя няштатныя сітуацыі, ручное кіраванне... Багдан Гук таксама быў узнагароджаны, але ўжо ордэнам Чырвонага Сцяга. Усіх выпрабавальнікаў былі сотні: штатных і няштатных, інжынераў і тэхнікаў, генералаў, старэйшых і малодшых афіцэраў і простых салдат тэрміновай службы.

Магчымасці чалавека і касмічнай тэхнікі выпрабоўваліся на вадзе, у паветры, пры розных тэмпературах, у розных кліматычных умовах: на Поўдні і Поўначы, у Арктыцы і джунглях, у акіяне і пустынях... Здаралася і непрадбачанае: траўмы, абмаражэнні, апёкі... Вельмі многае было на мяжы чалавечых магчымасцей, але выпрабавальнікі разумелі: «Наша праца патрэбная, касманаўт павінен быць упэўнены, што ўсе сістэмы касмічнага карабля ўжо апрабаваныя і надзейныя».

12 красавіка ўжо 46-ы раз чалавецтва ўсёй планеты адзначыць сусветны Дзень авіяцыі і касманаўтыкі. Вельмі добра памятаю тую першую падзею, бо кожны марыў стаць такім, як Юрый Гагарын. Або мець хоць нейкае дачыненне да авіяцыі ці касманаўтыкі.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ,**
**г. Маладзечна**




**Беларускі космас пачатку мінулага стагоддзя**







# 2007: Год Слова Купалы і Коласа



*(Працяг. Пачатак у №№ 3–12)*

Калі цяпер перачытваеш альбо па-новаму чытаеш том першых вершаў Я. Купалы, то больш звяртаеш увагі і на іншыя нюансы яго тагачаснай паэзіі: ён пачаў фармавацца як паэт не толькі грамадска-сацыяльнага складу, але і як лірык, дзе не асцерагаўся выказваць свае асабістыя сардэчныя пачуцці да жаночай прыгажосці, светлага і ўзвышанага свету кахання («У зялёным садочку», «Кацярына», «Дзяўчынка, галубка мая», «Чорныя вочы», «Да дзяўчатак»). Хіба і сёння не вабна гучыць:

*Дзяўчынка, галубка мая!*
*...*
*Любі, як цябе люблю я,*
*Мілуй і цалуй агнісцей.*

За некалькі гадоў Я. Купала змог надрукаваць літаральна некалькі вершаў, астатнія апынуліся ў розных рэдакцыях, чужых руках, у архіўных папках, а то і былі знішчаныя. Ды і рэдкія публікацыі разам з вуснымі чытаннямі твораў у рукапісах хутка зрабілі яго імя вядомым.

З ліста (1928) Я. Коласа Л. Клейнбарту: «Это имя впервые услыхал я, вернее, увидел в мою бытность в редакции “Нашей Нивы” весною 1907 года, когда стали появляться его стихи. Я имел тогда очень близкое отношение к чисто литературному отделу в газете и прочитывал Купалины стихи в рукописи. Оригинальность, свежесть и талантливость их автора сразу обращали на себя внимание. В тесном кругу незначительной числом белорусской интеллигенции того времени имя Купалы повторялось очень часто как имя даровитого поэта, от которого ожидалось очень много. Поэзия Купалы растет, развивается и на страницах “Нашей нивы” занимает первое место».

Ліпень, жнівень 1907. Я. Купала ў «Нашай Ніве» спрабуе свае творчыя сілы як публіцыст нататкай «Беніцкая воласць Ашмянскага павету...» (подпіс И. Л.).

15 верасня 1907. Я. Купала атрымаў пашпарт № 3726, выдадзены Мінскай мяшчанскай управаю (Г. Кісялёў. Пуцявінамі Янкі Купалы). Гэты дакумент (захоўваецца ў Купалавым музеі) служыў яму да 1920 г. У пашпарце, не лічачы вокладкі, было 22 лісты, большую частку якіх займалі вытрымкі з правіл аб пашпартным рэжыме і старонкі, прызначаныя для паметак аб унясенні падаткаў (яны, падкрэсліваў Г. Кісялёў, у Купалавым пашпарце незапоўненыя). Найбольш каштоўнае ў пашпарце – шматлікія адзнакі аб прапісцы, што шмат даюць для ўдакладнення храналогіі жыцця гаспадара. Такіх адзнак 21. Апошнія тры зробленыя ў час белапольскай акупацыі Мінска.

28 верасня 1907. У «Нашай Ніве» паэт друкуе верш «На што?» і прысвячае яго Я. Коласу, асабістая сустрэча з якім адбудзецца толькі амаль праз 5 гадоў.

Падсумоўваючы зробленае Я. Купалам за 1905–1907 гг., безумоўна, было б недаравальна не сказаць, што ў гэты час у першых варыянтах ужо былі створаныя ім і неўміручыя шэдэўры беларускай паэзіі ўсіх часоў – вершы «Гэта крык, што жыве Беларусь», «А хто там ідзе?» і «Ворагам Беларушчыны», якія ў ягоных прыхільнікаў у наступным 1908 г. выклічуць захапленне і ўшанаванне як буйнога нацыянальнага паэта, а ў непрыяцеляў – раз'юшаныя нянавісць і нападкі як на яго, так і на новую беларускую літаратуру.

***Калі ўважліва глянуць на гісторыю развіцця беларускай культуры і літаратуры канца XIX – пачатку XX стагоддзя, то нельга абмінуць увагай такую буйную фігуру, як Браніслаў Ігнатавіч Эпімах-Шыпіла. Цікавасць да Эпімаха-Шыпілы – гэта цікавасць не толькі да яго як да асобы, але і цікавасць да гісторыі беларускага кнігавыдання, да творчасці Янкі Купалы, да студэнцкага руху і да некаторых іншых пытанняў нашай гісторыі, літаратуры і культуры.***

***Рыгор СЕМАШКЕВІЧ***

***Нарадзіўся Браніслаў Іванавіч Эпімах-Шыпіла 4 верасня 1859 года ў фальварку Будзькаўшчына, што на Лепельшчыне. Дзяцінства яго прайшло ў фальварку Залессе (цяпер Полацкі раён). Мясціна была дастаткова глухая. Кругом лясы. Бацька быў дробным шляхціцам. Меў 20 дзесяцін ворнай зямлі і 10 дзесяцін лесу. Дзевяцігадовага Браніслава пасля смерці бацькоў забраў на выхаванне ў Рыгу адукаваны сваяк – інжынер Фадзей Шыпіла. У Рызе Браніслаў прайшоў поўны курс польскай гімназіі і скончыў яе з залатым медалём. Пасля паступіў у першы Пецярбургскі універсітэт на аддзяленне класічных моў гісторыка-філалагічнага факультэта, дзе дасканала авалодаў больш чым дваццаццю старажытнымі і новымі еўрапейскімі мовамі. Свабодна валодаў лацінскай, грэчаскай, славянскімі мовамі, а таксама нямецкай, англійскай, французскай, італьянскай, іспанскай, літоўскай. Ведаў такія мовы, як санскрыт і іўрыт.***




Пасля заканчэння Пецярбургскага універсітэта ў 1885 годзе і здачы спецыяльнага экзамену на званне настаўніка гімназіі Браніслаў Ігнатавіч не мог знайсці работы. І толькі надзвычайная падрыхтаванасць дала магчымасць яму ўладкавацца па вольным найме на службу ў бібліятэку Пецярбургскага універсітэта. Акрамя таго, Эпімах-Шыпіла выкладаў грэчаскую мову ў Рымска-каталіцкай духоўнай акадэміі, лацінскую – на агульнаадукацыйных курсах Чарняева, працаваў настаўнікам грэчаскай мовы ў мужчынскай гімназіі. Пазней Б.І. Эпімах-Шыпіла доўгі час займаў пасаду памочніка дырэктара бібліятэкі пры Пецярбургскім універсітэце (займаць пасаду дырэктара яму не дазваляла каталіцкае веравызнанне), быў калежскім саветнікам. Дарэчы, працавітасць гэтага чалавека была заўважана дзяржаўнымі чыноўнікамі і адзначана Ордэнам Працы яшчэ ў дарэвалюцыйны час. Але неабходна адзначыць, што знешне спакойны Браніслаў Ігнатавіч быў строгім і надзвычай акуратным, ва ўсім патрабавальным да сябе і да іншых, меў незвычайныя арганізатарскія здольнасці, валодаў здольнасцямі збіральніка народных твораў. Запісы Эпімаха-Шыпілы адрозніваюцца найдакладнай пашпартызацыяй. Першыя запісы народных песень адносяцца да гадоў ранняй маладосці, як адзначае сам аўтар яшчэ ў 1877 годзе, калі яму было ўсяго 18 гадоў. У той жа час Эпімах-Шыпіла цікавіцца не толькі народнымі творамі, але грунтоўна вывучае і запісвае мастацкія творы пэўных аўтараў. Напрыклад, ён знімае копію з рукапісу камедыі В. Дуніна-Марцінкевіча «Залёты», па якой п'еса друкуецца і сёння. У гэтым жа годзе Эпімах-Шыпіла даведваецца, што ў Кракаве ў Ягелонскай бібліятэцы знаходзіцца адзіны экземпляр «Пана Тадэвуша» Адама Міцкевіча ў перакладзе на беларускую мову В. Дуніна-Марцінкевіча. Тыраж перакладу ў свой час быў спалены па загадзе віленскага цэнзара. Эпімах-Шыпіла робіць копію і гэтага твора.

Вынікам была складзеная вучоным «Хрэстаматыя». Гэта аб'ёмны рукапісны зборнік у цвёрдай масіўнай вокладцы. Творы запісаны акуратным почыркам Эпімаха-Шыпілы. На тытульным лісце лацінскімі літарамі напісана па-беларуску наступнае: «Беларуская хрэстаматыя. Сабраў і ўлажыў Браніслаў Эпімах-Шыпіла. Пецярбург. 1889 г.» Хрэстаматыя складалася вучоным 42 гады. Апошні запіс быў зроблены збіральнікам у 1931 годзе. «Хрэстаматыя» Эпімаха-Шыпілы – унікальны дакумент у гісторыі беларускай літаратуры. Лёс яе, праўда, не вельмі шчаслівы. Пасля смерці Эпімаха-Шыпілы яна трапіла да рускага вучонага Пушкарэвіча, а пасля – да Бэндэ, і да 1960-х гадоў не траплялася на вочы даследчыкам. З цяжкасцю ўдалося адшукаць гэты зборнік вясной 1966 года ў тады яшчэ не апрацаваных фондах Цэнтральнага Дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва БССР. Асноўную частку «Хрэстаматыі» складаюць творы, перапісаныя Эпімахам-Шыпілам у 1889–1890 гадах у Пецярбургу з розных выданняў і ў час наведвання родных мясцін.

Эпімах-Шыпіла быў сапраўдным членам Віцебскай вучонай архіўнай камісіі, ад імя якой у 1896 годзе ўдзельнічаў у археалагічным з'ездзе ў Рызе. У складзе рускай дэлегацыі ездзіў у 1908 годзе ў Брусель на Першы міжнародны з'езд бібліятэчных работнікаў.

***Алена БУРБОЎСКАЯ,***
***намеснік дырэктара па навуковай працы Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы***

***(Працяг будзе)***

*(Працяг. Пачатак у №№ 3–12)*

Нельга было не ўсклікнуць: ну й ну! Маладыя настаўнікі сабраліся паразважаць пра змяненне казённай педагагічнай сістэмы, пра сапраўднае назначэнне настаўніка для асветы маладога пакалення, а ім – вунь якое абвінавачванне! Як бандытам альбо тэрарыстам! Ім многія настаўнікі спачувалі, аб'ядналіся і выступілі ў абарону, заклікалі зноўпрызначаных не займаць месцы звольненых. Але царская судовая сістэма была няўмольная і тайна рыхтавала расправу з непаслухмянымі і няўгоднымі, якія не столькі каяліся, вымольвалі дараванне і прыслужнічалі, колькі адмаўлялі свае «цяжкія злачынствы», зводзілі іх да звычайнай сяброўскай сустрэчы і прыемнай выпіўкі на беразе прыгожага Нёмана. Прадчуваючы строгае пакаранне, некаторыя ўдзельнікі таго з'езда збеглі з Беларусі, у тым ліку і за мяжу. Я. Колас застаўся, спрабаваў знайсці працу, але ўлады не давалі яму магчымасці мець сталы заробак, пераследавалі. А з гэтым, зразумела, не было ні магчымасці, ні належнага настрою ажыццяўляць свае літаратурныя задумы, хоць чарніла не засыхала і пяро было ў рабоце.

У невялікай публікацыі цяжка нават пракаментаваць некалькі дзесяткаў (мясцінамі аб'ёмістых) дакументаў, прысвечаных следству і суду над Я. Коласам. Але знаёмства з імі, а таксама грунтоўныя тлумачэнні да іх Г. Кісялёва дапамагаюць нібы трапіць у той час, у тыя жорсткую рэчаіснасць і атмасферу, прасякнутую недаверам, сачэннем і звальненнем з пасад, прыцягненнем па палітычных матывах да судоў самых прыстойных людзей. Да слова, амаль яшчэ па гарачых слядах, 20 ліпеня 1906-га, пракурор Мінскага акруговага суда сакрэтна дасылае пракурору Віленскай судовай палаты прадстаўленне, дзе «имеет честь донести» пра настаўніцкі з'езд, пра вынікі першых допытаў удзельнікаў і забраных ад іх дакументаў, сярод якіх былі і брашуры сацыялістаў-рэвалюцыянераў, «призывающих крестьян к насилиям над помещиками и к забастовкам». Услед, праз месяц вывучэння справы, з Мінска ў Вільню ідзе новае прадстаўленне, у якім гаворыцца, што на аснове паказанняў «в качестве свидетелей полицейского стражника..., полицейского урядника... (пристава)» затрыманым прадстаўлена абвінавачванне. У лютым 1907-га таксама сакрэтна з Мінска дасылаецца адпаведны дакумент у Міністэрства юстыцыі, адтуль у сакавіку – сакрэтны ліст пракурору Віленскай судовай палаты. На ім сярод рэзалюцый была і такая: «Предложить прокурору принять меры к скорейшему окончанию и направлению дознания». Гэта значыць, Мінск падспешвалі запускаць судовы махавік.



*Фрагмент малюнка А. Волкава «Настаўніцкі з'езд»*

*Старонку вядзе пісьменнік Генрых ДАЛІДОВІЧ*








*(Працяг. Пачатак у № 12)*

Многія прыслухаліся да гэтых прароцкіх слоў. Сцвярджаць падобнае можна таму, што ў беларускай мовы ўсё больш і больш знаходзілася адданых прыхільнікаў, асабліва сярод настаўнікаў, якія ніяк не хацелі мірыцца з тым, што яе не выкарыстоўваюць ва ўсіх тыпах навучальных устаноў краю. Але міналі гады, змяняліся да горшага абставіны. Колькасць прыхільнікаў беларускага слова асабліва рэзка стала змяншацца ад часу правядзення камуністычнай партыяй варожай для ўсіх народаў СССР палітыкі на збліжэнне і зліццё іх культур і моваў. Спыніць працэс бяздумнага, недарэчнага выračэння людзей ад матчынага слова ўдалося толькі на хвалі чарговага беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэння канца 80-х – пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя. Праўда, праціўнікам яго праз праведзены ў маі 1995 года рэферэндум удалося нанесці скрышальны ўдар па беларускай мове. Зараз яе пазіцыі ў грамадскім жыцці да такой ступені хісткія, што ўзнікла рэальная пагроза этнічнага вымірання беларусаў. І самае страшнае, што такое адбываецца пры маўклівай згодзе і нават ухваленні абсалютнай бальшынёю нашых палітыкаў, інтэлігенцыі. Грамадства апынулася ў такім хаосе і паняверцы, чаго не прадбачыў Купала. У яго вышэйзгаданым артыкуле былі такія поўныя веры ў сваіх людзей радкі:

*«Сам народ можа падпасці пад чужое сільнейшае ўладарства і часам цэлыя вякі насіць на сабе путы нявалі, але ніколі ў заваяваным ці забраным народзе няможна выдзерці яго душы і яго роднага слова. Гэта апошняе яму матка, кармлючы дзіцянё сваёй грудзёй, перадае як найсвяцейшы скарб разам са сваім пракляццем таму дзіцяці, каторае, вырасшы, захацела б вырачыся роднага слова, бо гэтым самым выраклася б і роднай маткі... Як бы... недарэчна выглядала, каб хто над дамавінай свайго роднага пачаў галасіць, прыгаворваць не ў сваёй, а ў чужой мове; або каб на вяселлі шлюбоўнікам пачалі пяяць кабеты чужыя, незразумелыя песні».*

На нашу бяду, жыццё не пацвердзіла гэтых слоў. Савецкая ўлада і сённяшняя бязладная рэчаіснасць практычна ўжо выдзерлі з беларусаў роднае слова. Зараз толькі зрэдку пачуеш яго ў грамадскім месцы, і мала якая «матка, кармлючы дзіцянё сваёй грудзёй, перадае» яму гэты «найсвяцейшы скарб», бо і сама не валодае ім. Яна вучыць дзіцянё па-руску, бо гэтая мова спатрэбіцца яму ў дзіцячым садку, школе і ў больш высокага тыпу навучальных установах, а затым у практычным жыцці. Родную ж мову карэннага насельніцтва Беларусі дзяржава ўжо даўно вывела адусюль. Таму маці і не праклінаюць сваіх дзяцей, калі яны не валодаюць, не карыстаюцца беларускай мовай. Цяпер не ўспрымаецца як недарэчнасць, калі «над дамавінай свайго роднага» галосяць, а на вяселлі спяваюць песні «не ў сваёй, а ў чужой мове». Такая з'ява нярэдка назіраецца нават у сем'ях беларускіх пісьменнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы, навукоўцаў у галіне беларускай філалогіі, журналістаў, што пішуць па-беларуску, артыстаў беларускамоўных тэатраў. Відаць, сямейнага беларускамоўнага асяроддзя яшчэ не дастаткова, каб дзеці добра ведалі родную мову. Для гэтага трэба, каб ёю карысталіся яны ў выхаваўчых і навучальных установах, у сваёй штодзённай практычнай дзейнасці. Але ж там спрэс пануе руская мова.

Дзякуючы стараням уладных структур, яна істотна пацясніла беларускую мову ва ўсіх сродках масавай інфармацыі, падчас выступленняў эстрадных артыстаў, правядзення рознага роду масавых мерапрыемстваў. Рэдкай з'явай стала выкарыстанне беларускай мовы ў візуальным афармленні нашых населеных пунктаў. У такіх варунках валодаць ёю аказваецца надзвычай цяжкай справай. Таму і не надта падуладна вялікай колькасці сённяшніх беларусаў прытрымлівацца разумнай парады любімага песняра: «... выракацца роднай мовы мы не маем права». Каб такога не назіралася, трэба карэнным чынам мяняць дзяржаўную моўную палітыку.

Янка Купала ўсё жыццё з зайздросным аптымізмам верыў у стваральную здольнасць народа, спадзяваўся, што ён ніколі не дазволіць сабе растварыцца ў чужой культурна-моўнай стыхіі. Гэты аптымізм пачаў зараджацца ў яго на са́мым заранку літаратурнай дзейнасці. У напісаным у 1913 годзе артыкуле «Чаму плача наша песня?» чытаем:

*«... не за гарамі ўжо той час, калі ўзбудзіцца наш беларускі народ, як адзін, к новаму, светламу жыццю...»*

І такое сям-там назіралася, а вось набыць вялікую моц шмат што замінала яму. Беларускамоўная песня і сёння наўзрыд плача горкімі слязамі, бо ледзь не спрэс пануе руская ў дзяржаўным сектары культуры. Як вядома, у час, калі да актыўнай нацыянальна-культурнай, пісьменніцкай дзейнасці далучыўся Купала, наша Бацькаўшчына зведвала страшэнны дэфіцыт у інтэлігентных сілах, асабліва ў галіне мастацкай творчасці. Тлумачылася гэта не толькі адпаведнай дзяржаўнай палітыкай, але і імкненнем многіх таленавітых людзей працаваць на тую культуру, дзе можна здабыць найбольшую вядомасць. Яго ніколі не радавала, што беларускага паходжання Адам Міцкевіч, Уладзіслаў Сыракомля і шмат іншых, «дзякуючы запанаваўшай ў нас чужой культуры, апяялі... харaство» радзімы *«ў незразумелых для беларуса песнях...*

*(...) цяперашняя краёвая "польская" інтэлігенцыя нічога супольнага з народам тутэйшым мець не хоча. Частка ж невялікай інтэлігенцыі, каторая прыйшла да нас з Расіі, таксама глядзіць на нас як на матэрыял, добры для пераварочвання на свой капыл. Такім парадкам, людзей светлых, шчыра адданых нашай старонцы і нашаму народу, мы не мелі...»*

Не сакрэт, падобнага кшталту людзей мы не маем у патрэбнай колькасці і сёння, што асабліва востра адчуваецца на тых участках жыцця, дзе вырашаецца лёс Бацькаўшчыны, дзе неабходны рашучыя захады, каб спыніць спаўзанне нацыі ў асіміляцыйную багну. На пальцах адной рукі можна пералічыць тых прысланых Масквою за ўвесь пасляваенны перыяд дзеячаў культуры, якія сталі ў нас сапраўднымі творцамі беларускай нацыянальнай культуры, носьбітамі нашых культурна-моўных традыцый. Трапіўшы на Беларусь, яны сталі тут не толькі інтэнсіўна без усялякай меры распаўсюджваць ужо наяўныя рускія духоўныя каштоўнасці, але і ствараць новыя. Не без уплыву такіх творцаў на падобны супярэчны нацыянальнаму інтарэсу шлях стала вялікая армія дзеячаў культуры беларускага паходжання. У выніку зараз на ніве рускай культуры Беларусі працуе куды больш творчых людзей, чым у сферы яе нацыянальнай, роднай культуры. Выходзіць, і тут мы не ўзялі пад увагу слушнага папярэджання Апостала нацыі пра страшэнную небяспеку пераварочвання нас на чужы капыл.

Вельмі рана Купала ўсвядоміў, якой вялікай перашкодай да абуджэння беларускага народа да актыўнай самабытнай культурнай дзейнасці з'яўлялася адсутнасць у яго сапраўднага нацыянальнага тэатра. Украінцы намнога раней за нас зразумелі ролю апошняга і ўжо на пачатку XX стагоддзя дамагліся тут пэўнага поспеху. Вось чаму гэтая праблема так непакоіла ўсю кагорту нашых нацыянальных адраджэнцаў. У цяжкім для Бацькаўшчыны 1915 годзе, калі ўсё бліжэй падыходзіла да яе межаў лінія нямецка-рускага фронту, Купалу ўдалося пабыць у Вільні на апярэце «Залёты» (словы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, музыка М. Кімонт) у выкананні Беларускага музычна-драматычнага гуртка. Гульнёй артыстаў застаўся задаволеным, але толькі не іх беларускай мовай. У спецыяльна прысвечаным спектаклю артыкуле пісаў:

*«... апрача двух-трох артыстаў, аб іншых трудна было падумаць, што іграюць беларусы і па-беларуску са сцэны гаворaць. Бедная ты мова беларуская, як цябе людзі не ўмеюць шанаваць!»*

Не сумняваюся, што гэтыя словы паўтарыў бы паэт і сёння, пачуўшы, як нявечаць беларускую мову многія артысты тэатраў, журналісты тэлебачання і радыё, ірваў бы валасы на галаве, прысутнічаючы на юбілейных вечарах артыстаў беларускамоўных тэатраў, калі яны вядуць гутарку з аўдыторыяй толькі па-руску. На гэтай мове бальшыня з іх піша і свае мемуары. Словам, усё не так, як меў спадзеў на тэатральныя калектывы Купала.

Так сталася, што Купала не вырас у спрактыкаванага педагога-прафесіянала. Зразумела, не меў перад сабою такой мэты. Але, як арганізаваць дзейнасць сістэмы народнай адукацыі, каб яна служыла нацыянальнаму, а не чужому інтарэсу, ведаў, мо як ніхто іншы. Ён добра разабраўся з хітрыкамі польскіх акупантаў, якія задужа любілі праводзіць рэферэндумы з бацькамі датычна мовы навучання іх дзяцей у школе. Да гэтай справы нашы заходнія суседзі прыцягвалі вялікую колькасць адданых польскай ідэі агітатараў. Не спалі і асобы, моцна заражаныя вялікарускім дзяржаўным шавінізмам. Каб даць аб'ектыўную ацэнку тагачаснай складанай сітуацыі, Купала прапанаваў грамадству задумацца над такімі пытаннямі:

*«Хіба можа цёмны беларускі абыватаць пажадаць беларускае школы, калі ён не ведае, ці прынясе яна яму карысць?! Хіба можа ён адважыцца на беларускую школу, калі беларушчына цэлымі соткамі год ганьбілася і выганялася адусюль, адкуль толькі можна было?!»*

Многія нацыянальна-самасвядомыя беларусы разам з паэтам адказвалі на пастаўленыя пытанні: «Не». Каб карэнным чынам змяніць сітуацыю на карысць беларусаў, ён быў думкі, што трэба ствараць толькі такія школы, якія маглі б

*«прышчапляць вучням любасць да роднага краю, развіваць у іх пашану да таго народу, сярод каторага яны жывуць, і гатаваць з іх добрых, сумленных і працавітых работнікаў на ніве беларускай культуры. Трэба ж, конец-концам, уцяміць, што тут не Расія і не Польшча, а Беларусь, каторая не хоча ніякіх плебісцытаў, накіданых ёй сёння аднымі, а заўтра другімі...»*

Пасля такіх слоў неадчэпна лезе ў галаву думка: колькі б мы выратавалі маладых душаў ад культурна-моўнай русіфікацыі, каб увесь час слухаліся разумных слоў Апостала беларускай нацыі?! Але на сёння, відаць, нічога нельга зрабіць, бо плебісцыты датычна мовы выкладання ў школах занадта ўжо любяць разам з палітыкамі і ўзгадаваныя ў рускамоўных навучальных установах настаўнікі, кіраўнікі народнай адукацыі. Карыстаючыся амаль поўнай незапатрабаванасцю беларускай мовы ў грамадскім жыцці, нізкім узроўнем нацыянальнай самасвядомасці карэннага насельніцтва краіны, яны вельмі лёгка дамагаюцца падчас рэферэндумаў згоды людзей будаваць нашу сістэму народнай адукацыі на рускай культурна-моўнай аснове. Хапае ў іх «важкіх» довадаў, каб адвесці маладасведчаных ў пытаннях народнай адукацыі людзей ад думкі пра неабходнасць стварэння і развіцця беларускай нацыянальнай вышэйшай школы. З гэтым у нас поўны застой. Не маючы аніводнага нацыянальнага універсітэта, Беларусь на фоне сусветнай практыкі (не кажучы ўжо пра еўрапейскую) працягвае выглядаць «белаю варонаю».

***Леанід ЛЫЧ,***
***доктар гістарычных навук, прафесар***

***(Працяг будзе)***




***«Родина» для айчынных фільмаў?..***

*Фота Святланы ПРАКОФ'ЕВАЙ*

# «Бясконцы свет дабрыні»

*Я веру, што ўсё мае меру.*
*І рэчы, і ночы, і дні,*
*І толькі не мае памеру*
*Бясконцы*
*сусвет дабрыні.*
***Анатоль Грачанікаў***

Літаратурныя сустрэчы, прысвечаныя творчасці Анатоля Грачанікава (1938–1991), упершыню прайшлі 8 верасня 1998 года на яго радзіме, у вёсцы Шарпілаўка Гомельскага раёна. Пачаліся яны ў хаце, дзе 60 гадоў таму нарадзіўся паэт. З ініцыятывы радні, пісьменнікаў з Гомельшчыны, з дапамогай Гомельскага раённага аддзела культуры і раённай бібліятэкі. З таго часу тут пабываў, пра многае падумаў, сказаў сваё слова пра вядомага шарпілаўскага ўраджэнца не адзін дзесятак прыхільнікаў яго таленту, пісьменнікаў з Гомельшчыны і з іншых абласцей і сталіцы Беларусі, з суседніх Чарнігава і Бранска, Кіева і Масквы. Шмат разоў гучалі тут, каля хаты, у школе і музеі, у Гомелі вершы паэта і песні на яго словы ў выкананні прафесійных і самадзейных артыстаў, у тым ліку і дзяцей.

Нядаўна ў чацвёрты раз літаратурныя сустрэчы ладзіліся ў раённым Доме культуры. Там госці маглі азнаёміцца са стэндам «Літаратурная спадчына Анатоля Грачанікава», а ў вялікай і запоўненай зале прысутнічаць на лірычнай вечарыне «Сусвет Дабрыні», прысвечанай творчасці паэта. Узнёслы настрой вечарыне надалі студэнты-баяністы каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага В. Грышчанка і Я. Мароз, хораша выканаўшы некаторыя народныя мелодыі. Пасля пісьменнік Ул. Гаўрыловіч пазнаёміў усіх, найперш моладзь, з жыццём і творчасцю А. Грачанікава, нагадаўшы, што той зведаў розныя перыяды: як цяжкія (у гады вайны), так і шчаслівыя, у час навучання ў цяперашнім Беларускім інстытуце інжынераў чыгуначнага транспарту і вышэйшых літаратурных курсах у Маскве, на працы ў камсамоле, у праўленні Саюза пісьменнікаў, у розных літаратурных выданнях, калі шмат пісаў і друкаваўся. Толькі пералік яго твораў і ў якіх выданнях яны выйшлі, займае сем старонак энцыклапедычнага выдання «Беларускія пісьменнікі». Некаторыя з гэтых твораў перакладзены на дваццаць тры мовы свету, удастойваліся розных пісьменніцкіх прэмій, у тым ліку і Дзяржаўнай прэміі Беларусі.

Сваімі ўспамінамі пра А. Грачанікава падзяліліся сучаснікі і сябры паэта. Так, М.І. Афанасьеў, якога раней добра ведалі як генеральнага дырэктара вытворчага аб'яднання «Гомсельмаш», нарадзіўся таксама, як і паэт, у вёсцы Шарпілаўка. Ён успомніў, як яны вучыліся ў школе (сядзелі за адной партай) і як сябравалі, як быў адным з першых сведкаў пачатку паэтычнай творчасці аднакласніка яшчэ ў школьныя гады, яе працягу і ўзвышэння да лепшых узораў беларускай паэзіі. Паэт Ігар Паляшук падрабязна расказаў пра свой пачатак сяброўства з Грачанікавым-студэнтам, калі разам былі ў вузаўскім літаб'яднанні і калі Анатоль вылучаўся сярод іншых тым, што ўмеў, здавалася б, побытавы эпізод асэнсаваць паэтычна, з філасофскім роздумам. Была зачытана тэлефанаграма вядомага празаіка Генрыха Далідовіча, які дзевяць гадоў разам з А. Грачанікавым працаваў у часопісе «Маладосць», добра знаёмы з яго сям'ёй і раднёю, неаднойчы бываў на яго радзіме, спрыяў і спрыяе прапагандзе жыцця і творчасці старэйшага сябры як сумленнага чалавека, выдатнага паэта і мужнага рэдактара (менавіта ў час іхняй працы ў часопісе «Маладосць» былі надрукаваныя такія выдатныя творы, як «Старажытная Беларусь» М. Ермаловіча і «Споведзь» Л. Геніюш). Доктар філалагічных навук, прафесар, член-карэспандэнт Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі, загадчык кафедры літаратуры ГДУ імя Ф. Скарыны І. Штэйнер падтрымаў думку наконт таго, каб Грачанікаўскія літаратурныя сустрэчы і чытанні ладзіць кожны год. А калі гаварыў пра паэзію А. Грачанікава, то падкрэсліў, што яго шматлікія вершы, балады і паэмы вылучаюцца высокай моўнай культурай, адчуваннем адзінства рытмікі, гармоніі зместу і формы. Невыпадкова на яго словы пісалі музыку вядомыя кампазітары І. Лучанок, Г. Вагнер, У. Буднік, С. Хвашчынскі, К. Паплаўскі і іншыя, а такія песні, як «Дударыкі», «Белая лілея», «Над Беларуссю – белы снег...» і цяпер гучаць свежа і непаўторна. Каб пераканаць у гэтым, шаноўны прафесар сам мілагучна праспяваў «Белая лілея».

Не маглі цёпла не гаварыць пра Грачанікава як тактоўнага чалавека і лірычна-інтэлектуальнага паэта, не дзякаваць яму за падтрымку жанчыны-паэты – Ніна Шклярава і Тамара Кручэнка. Яўген Калашнікаў, які шмат увагі аддае дзіцячай літаратуры, запыніўся на цудоўных дзіцячых творах А. Грачанікава. Многія з іх сталі хрэстаматыйнымі, увайшлі ў школьныя падручнікі па літаратуры, а ў пачатку васьмідзесятых гадоў паэт стаў лаўрэатам рэспубліканскага конкурсу на лепшы літаратурны твор для дзяцей і юнацтва (зборнік вершаў «Планета дзяцей»). Празаік і драматург Васіль Ткачоў з удзячнасцю ўспомніў эпізоды сустрэч з паэтам, як той, будучы пяшчотнай душы чалавекам, заўсёды дапамагаў сваім таленавітым землякам нават у бытавых пытаннях. В. Ткачоў прапанаваў аднавіць прэмію імя А. Грачанікава па выніках конкурсу сярод паэтаў Гомельшчыны. Паэт і літаратуразнаўца Алег Ананнеў, які напісаў нямала паэтычных твораў, артыкулаў пра мастакоў і пісьменнікаў, дапоўніў папярэднія выступленні расказам пра дзейнасць Грачанікава-перакладчыка. Самадзейны кампазітар Алена Кастэнка парадавала слухачоў песняй на верш А. Грачанікава «Зацалую, замілую...», якую выканала разам з Дзмітрыем Нілавым. Ён яшчэ, як і першакурснік Гомельскага дзяржаўнага універсітэта Алесь Бараноўскі, дэбютаваў на гэтай вечарыне як і паэт.

Было зусім дарэчы, калі менавіта пад час гэтай вечарыны ўсе віншавалі журналіста і паэта Міхася Болсуна з 65-годдзем: як ён прызнаўся, А. Грачанікаў, якога ён добра ведаў, адзін з любімых яго паэтаў.

Літаратурна-мастацкую вечарыну пашанотна вялі паэтэса Лідзія Возісава, якая зведала своечасовую падтрымку А. Грачанікава, асабліва ў час яго маладосцеўскай дзейнасці, і В. Фяськоў – намеснік дырэктара Гомельскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў імя Н. Сакалоўскага. На вечарыне, якую дапамог правесці дырэктар фірмы «Азбука камфорту» А.А. Лявонаў, прысутнічаў прадстаўнік Гомельскага аблвыканкама А.А. Каціла.

**Вера БАРХАТАВА**

## Лідзіяна

*З цеплынёю*
*Анатолю Грачанікаву*

*Не сумняваюся ў любові, не:*
*Як незвычайна гулка*
*сэрца б'ецца*
*Ад слоў пра Беларусь.*
*І мне здаецца –*
*Ад роднай мовы*
*цеплыня ўдвайне.*

*Ты разбудзіў,*
*хоць за руку не браў,*
*Але падвёў да мовы,*
*як да маці.*
*І каб яна гучала ў маёй хаце,*
*Сузор'е думак мне*
*праз верш аддаў.*

*Іскрацца словы рыфмай*
*ад крыніц,*
*Бароў зарэчных шэптам*
*размаўляюць.*
*Старонку родную*
*дабраслаўляюць, –*
*Нікому гэту песню*
*не спыніць.*



*А. Грачанікаў (1979 г.)*

**Фота з архіва сям'і Грачанікава**

***Беларускія кнігі ў XIX і пачатку XX стагоддзя, а ў Заходняй Беларусі нават да 1939 года друкаваліся і выдаваліся, як вядома, то кірыліцаю, то лацінкаю. Часта здаралася таксама, што адно і тое ж выданне, адна і тая ж кніжка выходзіла рознымі, незалежна адзін ад аднаго, шрыфтамі.***

# Які шрыфт?

Гэта была вымушаная практыка ў беларускім кнігадрукаванні. Яна вымагала ад беларускіх друкароў і выдаўцоў дадатковых намаганняў і сродкаў, якіх і так было скупа. Таму пытанне шрыфта, пытанне беларускай графікі перад беларускімі асветнікамі і выдаўцамі ў пачатку XX стагоддзя паўстала надзвычай востра.

Усім было зразумела, што так не павінна доўга быць, што трэба пераходзіць на якісьці адзін шрыфт.

Але на які?

У 1912 годзе з гэтай нагоды на старонках «Нашай Нівы» распачалася дыскусія. Працягвалася яна амаль цэлы год. Прыняў у ёй удзел і Янка Купала. На гэтую дыскусію ён адгукнуўся даволі вялікім аргументаваным лістом. Наш Пясняр, шчыра зацікаўлены ва ўпарадкаванні і ўладкаванні ўсіх нацыянальных стасункаў беларускага народа, не мог не адгукнуцца на гэтую дыскусію, не мог не прыняць удзел у ёй. Ён разумеў, што вырашаецца прынцыпова важны момант у гісторыі беларускай культуры, таму з хваляваннем пісаў з Пецярбурга, дзе вучыўся на агульнаадукацыйных курсах Чарняева: «Ёсць адзін вялікі Беларускі край, адзін многамільённы беларускі народ; адна ў гэтага народу беларуская мова, і ўсяго гэтага ж свая кніжка не мае права дзяліць на дзьве палавіны – на католікоў і праваслаўных, як тое рабіла дагэтуль рэлігія і чаму можа дапамагаць друкаванае роднае слова двума шрыфтамі».

Пасля Я. Купала тлумачыць, што «шрыфт рускі не пераіначыць (як некаторыя думаюць) нацыянальнай беларускай душы, як не пераіначыло яе кольківяковае ўладарства прадстаўнікоў іншых культур. Беларус астанецца беларусам, як засталіся балгары – балгарамі, сэрбы – сэрбамі і ўкраінцы – украінцамі», хаця і друкуюць свае кніжкі так званай «грамадзянкай». Апроч таго, Купала звяртае ўвагу прыхільнікаў лацінскіх літар, каторыя спасылаюцца на вышэйшасць заходняй культуры перад усходняй, што «культуру не шрыфт творыць, а ідэі, якія сеюцца ў народзе друкаваным словам; і не шрыфт загараджывае дарогу беларусам да ўсесьветнай культуры, а тые роднай зямлі сыны, каторыя ўтапілі і топяць свае беларускія душы толькі ў хвалях Віслы або Волгі».

На самым канцы Купала дае гарачы адказ усім тым, што «сягоньня робяць нашаму народу бытцым ласку, чытаючы беларускую кніжку, друкаваную тымі ці іншымі літарамі, і вырэкуцца гэтай кніжкі, калі яна будзе друкавана адным шрыфтам. Такія чытачы далёка беларусоў не завядуць. Беларусам патрэбны беларусы, а не палітычныя гешэфтмахеры, каторые пры першым лепшым падмуху з заходу ці з усходу хіляюцца да Варшавы, або да Масквы».



Год IV … № 49.

Наша Ніва

Першая Беларуская Газэта з Рысункамі

Гэтымі днямі выйдзе з друку

Беларускі Календар

„НАШАЕ НІВЫ"

на 1910 г.

*«Наша Ніва», друкаваная «рускімі літэрамі»...*



Von-Derwiza (W. O. Sredni pr. № 48).

u sabotu 9-ho lutaho (fiewrala) 1913 h.

ZHULAJECCA

BIEŁARUSKAJE IHRYŠČE

i predstaŭlena budzie pa biełarusku

PAŬLINKA

scena s šlachockaho žyćcia u 2-ch dziejach Janki Kupały

Deklamacija biełaruskaja.

Oryginalnyje biełaruskije wopratki.

Biełaruskije tancy.

Počta, Kioski, Konfetti.

Uchod na tancy 1 rubiel.

*...афіша пра беларускую вечарыну лацінаю...*



*...і кітаб па-беларуску – арабскаю вяззю*

***«Такім парадкам, – піша далей Купала, – абдумаўшы ўсё, як мне сумленьне дыхтавала, і прыймаючы пад увагу, што ў нашым краю бадай кожны граматны знае рускіе літары, а не лацінскіе, – я і прылучаюся да прыхільнікоў аднаго шрыфту ў беларускім друкаваным слове і падаю свой голас за тые літэры, якімі суджана было друкавацца першай беларускай сьвецкай кніжцы – Статуту Літоўскаму»[1].***

***Уладзімір СОДАЛЬ***

[1] «Статут Літоўскі» па-беларуску друкаваўся рускімі літарамі.

## Красавік

**14 – Беларускі музей народнага мастацтва,** філіял Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь (Мін. р-н, 1977) – 30 гадоў з часу заснавання (адкрыты 12.12.1979).

**16 – Ромер Альфрэд Ізідар** (1832, Вільня – 1897), жывапісец, графік, медальер, мастацтвазнавец, этнограф, творчасць якога звязана з мастацкім жыццём Беларусі і Літвы – 175 гадоў з дня нараджэння.

**18 – Гейштар Якуб** (Якуб Казімір Станіслаў) **Станіслававіч** (1827, Ковен. пав. – 1897), удзельнік паўстання 1863–1864 гг. у Польшчы, Беларусі і Літве, публіцыст, аўтар «Успамінаў 1857–1865 гадоў», якія з'яўляюцца каштоўнай крыніцай па гісторыі паўстання – 180 гадоў з дня нараджэння.

**18 – Дзяркач Анатоль** (сапр. Зміёнка Анатоль Рыгоравіч; 1887, Карэл. р-н – 1937), паэт, сатырык, гумарыст, перакладчык – 120 гадоў з дня нараджэння.

**27 – Браслаўскае раённае аб'яднанне музеяў (1982)** – 25 гадоў з часу заснавання.




*Фота Насці МЕЛЬНІКАВАЙ*

## Прыгаворкі-зычанні на вяселлі

Дару табе грошы, каб былі твае дзеткі харошы.
*Дару вам кулак медзі, каб былі сыны як мядзведзі.*
Колькі ў лесе пянёчкаў, каб у вас было столькі сыночкаў.
*Колькі ў лесе почак, каб у вас было столькі дочак.*
Дару цябе дугою, каб не хадзіў твой Іванка за другою.
*Дару табе клубок нітак, каб не хадзіў твой Іванка каля чужых лытак.*
Дару пару галубоў і харошую любоў.
*Дару мяшок проса, каб нявестка была хароша.*
Дару карзіну буракоў, каб не любіла чужых мужыкоў.
*Жадаю, каб штолета – то гэта, што восень – штук восем.*
Дару шчасце і долю і век доўгі, гоні пшаніцы, каб жалі – не дажалі і да года за куму ўзялі.
*Дару маладому каня з дугою, каб не бегаў за другою, а маладой – пуд буракоў, каб не знала чужых мужыкоў.*
Дару загон пшаніцы: хочаце – жніце, хочаце – не жніце, але мяне за куму вазьміце.
*Колькі ў сцяне сучочкаў – каб столькі было сыночкаў, а колькі шчэлачак – каб столькі дзевачак.*

***Паводле кнігі «Народныя казкі-байкі, апавяданні і мудраслоўі»***

## Крыжаванка

**Уздоўж: 1**. Насякомае-ліхтарык. **5**. Удзельніца забойства гаўляйтэра Кубэ ў 1943 г. **8**. У беларускім тэатры XVIII ст. пераважала камічная .... **9**. Прафесар гісторыі з Магілёва. **10**. Старажытнагрэчаскі пісьменнік, аўтар «Дафніса і Хлоі». **11**. Высокі воз у паўднёвых народаў. **13**. Рыбіны яйкі. **15**. Самы вядомы твор Джавані Бакача. **17**. Яе будавалі хелмскія мудрацы, каб было дзе мыцца. **19**. Невялікі аўтамабіль з адкіднымі сядзеннямі. **21**. Лабараторная пасудзіна з горлам. **23**. Дошка з напісаным на ёй тэкстам (бібл., высок.). **24**. Вёска ў Барысаўскім раёне, у Аздзяціцкім сельсавеце. **26**. Імя аднаго з братоў Луцкевічаў. **28**. Ізраільскі пісьменнік; яго кніга ў перакладзе на беларускую мову выйшла ў 2007 г. **29**. Пост аховы. **32**. Майстар спорту па шашках-64, аўтар кнігі «Завочныя шашкі ў Беларусі». **35**. Музычны твор, звычайна невялікі. **37**. Колішняя назва мясной крамы. **38**. Пясняр на Каўказе. **39**. Падатак у ВКЛ. **40**. Земляроб. **41**. Дрэва накшталт вяза. **42**. «...-Палтаўка» (1819) – знакамітая п'еса Івана Катлярэўскага.

**Упоперак: 1**. Ручное ружжо. **2**. Шахматная фігура, інакшай – ладдзя. **3**. Закупорка для бутэлькі. **4**. Ганчарнае мастацтва. **5**. Знакаміты аўстрыйскі кампазітар і дырыжор (1860–1911). **6**. Народны паэт Чувашыі Генадзь ... (1934–2006). **7**. Ёмішча для вады з ручкай. **12**. Лёгкі марскі вецер. **14**. І Маркс, і Лібкнехт. **15**. Гарадок на Міншчыне, названы ў гонар заснавальніка ЧК. **16**. Мікола ... – празаік і перакладчык (1902–1944). Уваходзіў у аб'яднанне «Маладняк», загінуў на фронце. **18**. Доўгая вяроўка, ласо. **19**. Возера на Барысаўшчыне, цэнтр партызанскай зоны ў Вялікую Айчынную вайну. **20**. Металічны прут. **22**. Руска-французскі мастак (1860–1924), ураджэнец Гродна. **25**. Герой Савецкага Саюза, чый танк першым уварваўся ў Мінск у 1944 г. Яго імя нададзена вуліцам у Мінску і Баранавічах. **26**. Нашыйнік для свойскай жывёлы. **27**. Забарона на імя, выяву. **30**. Колькаснае павелічэнне, а таксама вышыня. **31**. Паселішча ў Заходняй Індыі, славутае старажытным пячорным залам. **33**. Разлапісты корань дрэва; драўляная саха (уст.). **34**. Вёска на Лунінеччыне, вядомая з XV ст. «Тут сапраўдная Беларусь», – пісаў Іван Сербаў у 1928 г. **36**. Старажытнае паданне народаў Скандынавіі. **37**. Горная парода з дробных зерняў кварцу і халцэдону.

***Склаў Вольф РУБІНЧЫК, г. Мінск***



### Народ загадаў...

Кацiліся бiрулiцы па вулiцы, закацiлiся на двор ды заржалi, як конь.

**Сшыта, злаплена – нiдзе дзiрачкi не ўколена.**

У ірзы дзве кірзы, а ў рагулі чатыры кулі.

**Белы бок і чорны бок, толькі сядзе – ды ўверх скок.**

Хадзіло топало па-за плотало, пыталося ў ляпала, ці дома дзёдзяло.

**Балалай бяжыць – балота дрыжыць, балалай стане – балота звяне.**

Сядзіць на плоце ў жоўтым капоце, крычыць: «Гэй-гэй».

**Двайног, двайног, нясі мяне ў сіні лог, каб не найшоў чатыраног.**

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

*(Пачатак у № 1 за 2003 г.)*

**ВЯСЕЛЛЕ** *(заканчэнне)*. Напярэдадні да маладой прыходзілі яе найбольш надзейныя сяброўкі, «дружкі» (будучыя вясельніцы) на суборную суботу («зборны вечар», «паненскі вечар», «дзявочнік» і інш.). Ужо сам па сабе названы абрад вызначаў многае: найперш, што нявеста – паўнапраўная, любіць (а, бывала, што і не) маладога чалавека, стварае новую сям'ю. Маладыя дзяўчаты шчыра жадалі ёй быць шчаслівай. Таму яны маладую хораша прыбіралі, спявалі як журботныя (развітанне з дзявоцтвам), так і вясёлыя (з найлепшымі пажаданнямі) песні.

На вяселле запрашалі многіх – найперш самых блізкіх і далёкіх родзічаў, суседзяў, сяброў, патрэбных людзей. Звычайна спачатку вяселле пачыналася паралельна – у доме жаніха і нявесты. Пасля гурт маладога (сваты, шаферы) ехалі да маладой, дзе іх ужо чакалі пакліканыя (не ўсе) госці. У старажытнасці маладую садзілі на дзяжу (у ёй нарыхтоўвалі цеста на хлеб, а хлеб для ўсіх – гэта была святая справа!), каб пацвердзіць, што дзяўчына цнатлівая. У некаторых мясцінах маладой распляталі касу, што сімвалічна перavodзіла яе ў лік замужніх жанчын. Спакойнейшы гэтыя абрады, жаніхоў гурт кланяўся гаспадарам, маладой і па іхнім запрашэнні садзіўся за гасцінны стол, тое-сёе прыгубліваў, прыкусваў і, галоўнае, слухаў пажаданні. Пасля дружбанам маладога трэба было «выкупіць нявесту», а затым загадзя падабраным вясельным картэжам накіравацца ў царкву альбо касцёл, дзе маладых шлюбавалі.

Затым «вясельным поездам» падаваліся ў дом маладога. Па шляху ім маглі «перагарадзіць дарогу» і «ўзяць выкуп». Затым было застолле. Праз тыдзень былі перазовы – бацькі маладой прыязджалі да сватоў адведаць сваю дачку, а ў адказ бацькі маладога з сынам і нявесткай таксама рабілі візіт да яе бацькоў, што павінна было засведчыць усяму



*Дружкі збіраюцца да маладой (1937)*

люду пра мір і лад у новай сям'і.

Вясельныя рытуалы, у тым ліку і тыя, што былі звязаны з выкупам нявесты і пасагам ад яе, мяняліся. Кожны ўдзельнік вяселля меў сваю ролю. Зразумела, цэнтральнымі героямі былі жаніх і нявеста («князь» і «княгіня»). За імі вялікі гонар мелі сваты, старшыя дружбанты («баяркі», «шаферы»), блізкія сваякі, гаваркія людзі. На ўсіх этапах вяселля спяваліся вясельныя песні, быў цыкл, звязаны з жартамі, выслоўямі, прыпеўкамі і загадкамі, рознымі гульнямі. У розных рэгіёнах у час вяселля і пасля яго выконваліся і розныя народныя павер'і (напрыклад, як правіла, цвярозых маладых клалі спаць асобна, у клеці, а пад пасцель падсыпалі жыта: каб у іх першым нарадзіўся хлопчык. З даўніны ішоў звычай, каб маладыя першы месяц пасля вяселля цяжка фізічна не працавалі і г.д.). Вясельная абраднасць у беларускай літаратуры адлюстравана ў многіх мастацкіх творах – у вершаванай аповесці «Гапон» В. Дуніна-Марцінкевіча, у паэме «Адвечная песня» Я. Купалы, у раманах «Людзі на балоце» І. Мележа, «Гаспадар-камень» Г. Далідовіча і інш.

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета

Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамасная – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6.
Тэл. 283 28 26, 234 61 62.
E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 05.04.2007.
Газета надрукавана ў друкарні ТДА «Знамение» (Мінск, вул. Каржанеўскага, 14). Ліцэнзія ЛП № 02330/0131538 ад 04.10.2005.
Заказ 351
Тыраж 1400 асобнікаў.